# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Прафэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ ◆◆◆◆◆

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы ЦП, інфармацыя, адказы ◆◆◆ на запытаньні і крытычна-дыскусыйны матар'ял з месц) ◆◆◆

№ 3 (21) | 5-га САКАВІКА 1929 году | № 3 (21)

## З Ь М Е С Т.

### А. Пастановы Прэзыдыуму ЦП Саюзу.



### Б. Д ы р э к т ы в ы.



## А. Пастановы Прэзыдыуму ЦП.

### 1. Аб удзеле саюзу ў перавыбарах органаў спажывецкай і сельска-гаспадарчай каапэрацыі.

На пасяджэньні сваім ад 20-га лютага 1929 г. Прэзыдыум ЦП саюзу па дакладу Заг. Аргаддзелу т. Аскерка вынес наступныя прапановы:

1) Усім саюзным арганізацыям безадкладна прыступіць да падрыхтоўчай работы па перавыбарах органаў спажывецкай і с.-г. каапэрацыі.

2) На бліжэйшых сходах членаў саюзу ў саўгасах, лясьніцтвах, с/рабачкомах, лесараспрацоўках і інш. прадпрыемствах сельскай і лясной гаспадаркі на вёсцы паставіць справаздачы аб рабоце праўленьняў спажывецкіх т-в. і аб каапэраваньні сельгаслесрабочых.

**Ня менш 1-га сельгаслесрабочага—у склад праўленьняў спажывецкіх і крэдытн. т-ваў, ня менш 1-га—у склад рэўкамісій і 2—3 у члены каапэрацыйнага савету.**

3) Загадзя намеціць і ўзгадніць з мясцовымі арганізацыямі дзелавыя кандыдатуры з складу сельгаслесрабочых, якія зьяўляюцца пайшчыкамі, для вылучэньня іх у члены праўленьняў, рэўкамісій, а таксама і ў склад саветаў спажывецкай с.-г. каапэрацыі (крэдытныя, мэліярацыйныя і інш. т вы), з такім разьлікам, каб правесьці ў склад праўленьняў спажывецкіх і крэдытных т-ваў ня меньш аднаго сельгаслесрабочага, ня менш аднаго ў склад рэўкамісіі і ня менш 2-х—3-х членаў каапэрацыйных саветаў, там, дзе гэтакія маюцца.

4) Намечаныя кадыдатуры павінны быць пастаўлены на абгаварэньне сходаў беднаты, на якіх усе сельгаслесрабочыя—пайшчыкі каапэрацыі павінны прысутнічаць і прыймаць актыўны ўдзел.

5) Калі на тэрыторыі дзейнасьці таго ці іншага каапэрацыйнага аб'яднаньня знаходзіцца некалькі рабачкомаў нашага саюзу, то гэтыя рабачкомы павінны ўзгадніць паміж сабою кандыдатуры тыя, якія яны вылучаюць з тым,

каб ня было супярэчнасьцяў пры выбарах гэтых кандыдатур.

**200 сельгаслесрабочых на платную сталую працу ў органы спажывецкай каапэрацыі і 100 чалавек у органы с.-г. каапэрацыі.**

6) Дабіцца, каб у працягу перавыбарчай кампаніі органаў каапэрацыі, вылучыць на платную сталую работу па лініі спажывецкай каапэрацыі ня менш 200 сельгаслесрабочых (работніц і батрачак), па лініі сельска-гаспадарчай, асабліва крэдытнай, ня менш 100 чалавек па БССР.

7) На справаздачна-перавыбарчых сходах органаў каапэрацыі павінны прысутнічаць усе сельгаслесрабочыя, якія зьяўляюцца пайшчыкамі.

**100 проц. членаў саюзу—у пайшчыкі каапэрацыі.**

8) Усім саюзным арганізацыям зараз-жа прыступіць да правядзеньня работы па вярбоўцы членаў саюзу ў пайшчыкі каапэрацыі з такім разьлікам, каб на працягу паўгодзьдзя ўцягнуць у пайшчыкі спажывецкай каапэрацыі 100 проц. членаў саюзу, пры чым неабходна, каб да пачатку перавыбараў арганізаваць унясеньне ўступных узносаў і часткі паявых (прыкладна на 25 проц.) усімі лясьнікамі, спэцыялістымі, служачымі і рабочымі саўгасаў, а за батракоў чл. саюзу ўнесьці ўступныя ўзносы за кошт фондаў каапэраваньня беднаты, для чаго сельрабачкомам, сельупаўнаважаным і райкомам саюзу скласьці сьпісы на каапэраваньне батрацтва і падаць гэтыя лісты праўленьням спажывецкай каапэрацыі для залічэньня ў пайшчыкі і выдачы кніжак.

**На 30 проц. паніжаны паявы ўзнос для саўгаскіх рабочых і пралетарск. часткі лясьнікоў. Батрацтва каапэраваць за лік фондаў каапэраваньня беднаты.**

9) Батрацтва каапэраваць за лік фондаў каапэраваньня беднаты.

Паставіць перад Белкаапсаюзам пытаньне аб устанаўленьні льгот для сельгаслесрабочых пры ўступленьні ў пайшчыкі спажывецкай каапэрацыі, шляхам устанаўленьня паніжанага на 30 проц. паявога ўзносу для саўгаскіх рабочых і пралетарскай часткі лясьнікоў і аб прадстаўленьні рассрочак ня менш аднаго года. Батрацтва каапэраваць за лік фонду каапэраваньня беднаты.

10) Разгарнуць работу па ўцягненьню ў пайшчыкі крэдытных т-ваў, а таксама і ў пайшчыкі вытворчых аб'яднаньняў лясьнікоў, лесарубаў, грамадзкіх пастухоў і батракоў, якія маюць сваю ўласную гаспадарку, пры чым гаспадаркі, якія маюць быць аднесенымі да тыпу бедняцкіх, таксама каапэраваць за лік фондаў каапэраваньня беднаты.

**1000 батракоў ўцягнуць у калгасы.**

11) Прыняць меры да ўцягненьня ў існуючыя калгасы (арцелі, камуны), а таксама і тыя, якія будуць арганізоўвацца ў час веснавай пасеўнай кампаніі,—ня менш 1000—2000 батракоў, уносячы за іх паявыя ўзносы з фондаў каапэраваньня беднаты.

12) Аргаддзелу ЦП, разам з Белкаапсаюзам і Белсельсаюзам, паслаць па лініі саюзных і каапэрацыйных арганізацый ліст па пытаньнях каапэраваньня сельгаслесрабочых, уцягненьню батрацтва ў калгасы і ўдзелу ў перавыбарах органаў каапэрацыі, і аб вылучэньні на платную работу.

13) Усе саюзныя арганізацыі да перавыбараў органаў каапэрацыі і ў час перавыбараў праводзяць шырокую работу па ўцягненьню бедняцка-серадняцкага селянства ў пайшчыкі каапэрацыі.

14) Прыймаючы пад увагу, што батракам і лесарубам у сваёй працы прыходзіцца мяняць месца жыхарства, паставіць пытаньне перад Белкаапсаюзам аб увядзеньні ў першую чаргу для гэтых груп адзінага спажывецкага членскага білету, каб мець магчымасьць атрымліваць тавар у каапэрацыі ў розных мясцох.

15) На бліжэйшым пасяджэньні Прэзыдыуму ЦП саюзу заслухаць даклад Белрабсэкцыі аб рабочым забяспечэньні сельгаслесрабочых.

### 2. Аб ходзе лесазагатовак па БССР.

Заслухаўшы інфармацыю Нам. Дырэктара Лесбелу т. Хандогага аб ходзе дрэвалесазагатовак, Прэзыдыум ЦП саюзу на пасяджэньні сваім ад 20/II г. г. адзначыў наступныя асноўныя прычыны слабага тэмпу лесазагатоўчых работ:

1) Несваечасовы адвод і перадача каштарысных і звышкаштарысных лесасек.

2) Позьняе павялічэньне вытворчых праграм на лесазагатоўках.

3) Няспрыяючыя кліматычныя ўмовы (вялікія марозы).

4) Недастатковую падрыхтоўку і частковую расхлябанасьць лесазагатоўчага апарату, як адну з асноўных прычын, і недастатковую ўвагу з боку саюзных арганізацый пытаньням арганізацыі работ на лесазагатоўках.

5) Ня было створана спрыяючых умоў для шырокага прыцягненьня батрацтва і беднаты на лесазагатоўкі.

У зьвязку з чым Прэзыдыум ЦП саюзу пастанавіў:

1) Абавязаць Лясную Групу НКЗБ у самы кароткі тэрмін скончыць адвод і перадачу лесасек, высьвятліць прычыны і вінаватых у зацяжцы адводаў прыцягнуць да адказнасьці.

2) Лесазагатоўчым арганізацыям і саюзным органам прыняць тэрміновыя меры да арганізацыі найма рабочай сілы з батрацтва, беднаты і сераднякоў у разьмерах, патрэбных для своечасовага і поўнага выкананьня плянавых заданьняў.

3) Перад НК Гандлю паставіць пытаньне аб своечасовай дастаўцы хлеба-фуража на месцы работ і праверыць правільнасьць скарыстаньня хлеба-фуража.

4) Прыняць да ведама заяву Лесбелу аб тым, што ўвесь інспэктарскі склад лесазагатоўчых арганізацый камандыраваны на месцы для непасрэднага ўдзелу ў арганізацыі лесазагатоўчых работ.

5) Лесбелу прыняць меры да камандыраваньня на месцы кіруючых работнікаў лесазагатоўчых арганізацый.

6) Саюзным арганізацыям, асабліва Менскай, Мазырскай і Полацкай акруг, на час лесазагатоўчага сэзону ўдзяліць максімум увагі садзейнічаньню арганізацыі работ на лесазагатоўках.

7) Ад ЦП саюзу камандыраваць на 3 тыдні ў Гомельскую, Мазырскую і Бабруйскую акругі т. Аскерка для правядзеньня гэтых работ.

8) Улічваючы значнае павялічэньне вытворчых праграм, лічыць магчымым у мэтах стымуліраваньня ўстанавіць прэміраваньне адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу і арцеляў з пралетарскім складам да 100 проц.—своечасовае выкананьне плянавых заданьняў, асабліва ў часці загатоўкі экспортных матар'ялаў, не дапушчаючы зрыву расцэнак. Разам з тым прыцягваць да адказнасьці вінаватых у нядбайнасьці і расхлябанасьці. АТЭ ЦП саюзу супольна з лесазагатоўчымі арганізацыямі распрацаваць у тыднёвы тэрмін прынцыпы і ўстанавіць разьмеры прэміраваньня.

### 3. Аб правядзеньні „двухтыднёвіка" ашчаднасьці.

Прэзыдыум ЦП саюзу на пасяджэньні сваім ад 20/II г. г. па дакладу прадстаўніка Галоўнай Касы Ашчаднасьці тав. Полееса прыняў наступную пастанову:

1) Усім акруаддзяленьням і райкомам саюзу неадкладна зьвязацца з акруговымі і раённымі касамі ашчаднасьці і сумесна з імі распрацаваць канкрэтны плян удзелу нізовых саюзных арганізацый у „2-х тыднёвіку".

2) Зьвярнуцца з адозвай праз друк да ўсіх арганізацый і членаў саюзу аб актыўным садзейнічаньні разьвіцьцю ашчаднай справы на вёсцы і ўдзеле ў „2-х тыднёвіку".

3) Лічыць неабходным скарыстаньне ўсіх выездаў прадстаўнікамі ЦП і акраддзяленьняў для ўзмацненьня ўдзелу ў правядзеньні „2-х тыднёвіка" касы ашчаднасьці.

4) Зьвярнуць увагу ўсіх саюзных арганізацый на папулярызацыю ашчаднай справы сярод лесарубаў, лясьнікоў, рабочых саўгасаў, батракоў, рабочых торпараспрацовак і інш. і ўцягненьне іх у ашчадныя касы.

5) Прапанаваць усім нізовым арганізацыям саюзу зьвязацца з мясцовымі ашчадкасамі і прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні „2-х тыднёвіка" шляхам вылучэньня дакладчыкаў па ашчаднай справе і г. д.

**80 проц. спэцыялістых с.-г. і лясн. гаспадаркі, 50 проц. рабоч. саўгасаў і лясьнікоў, 20 проц. батракоў і лесарубоў — уцягнуць укладчыкамі кас ашчаднасьці.**

6) Паставіць задачай перад усімі арганізацыямі саюзу ўцягненьне ў ашчадныя касы да 1-га красавіка г. г. ня менш як 80 проц. спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі, 50 проц. рабо-

чых саўгасаў, лясьнікоў і адзіночак у мястэчках і 20 проц. батракоў і лесарубаў.

7) Побач з уцягненьнем членаў саюзу ўкладчыкамі кас ашчаднасьці, вясьці растлумачыцельную працу па гэтай справе сярод селян і ўцягваць іх укладчыкамі, прыцягнуўшы для гэтага спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі.

8) Усю працу па „2-х тыднёвіку“ ашчаднасьці высьвятліць праз газэту „Бел. Батрак“.

9) Даручыць усім саюзным органам абавязкова трымаць свае саюзныя сродкі ў касах ашчаднасьці.

10) Не пазьней, як 10/IV усім Акраддзяленьням і нізовым арганізацыям Менакругі данесьці ЦП аб праробленай імі працы па ўдзелу ў „2-х тыднёвіку“ ашчаднасьці і выніках гэтай працы.

### 4. Аб правядзеньні Паміжнароднага Жаночага Дню.

На пасяджэньні 20/II—г. г. па дакладу Нам. Заг. Культаддзелу, Прэзыдыум ЦП саюзу зацьвердзіў наступную дырэктыву:

Дзень 8-га сакавіка—дзень міжнароднага сьвята работніц і батрачак, які павінен праходзіць пад лёзунгам міжнароднай салідарнасьці і большага ўдзелу работніц і батрачак у абароне СССР.

У СССР 8-га сакавіка ў гэтым годзе праходзіць пад знакам шырокага растлумачэньня чарговых задач партыі і савецкай улады па сацыялістычнаму будаўніцтву, уцягненьне сельгаслесработніц і батрачак у гэта будаўніцтва і ў мабілізацыі іх увагі на перамогу тых цяжкасьцяў, якія зьвязаны з перабудовай нашай краіны.

Міжнародны дзень работніц у гэтым годзе саўпадае з кампаніяй па падняцьцю ўраджайнасьці, ітогамі перавыбараў у сельсаветы і перавыбарамі ў каапэрацыю на вёсках, пагэтаму неабходна ў падрыхтоўцы правядзеньня міжнароднага дню работніц і батрачак зьвярнуць асаблівую ўвагу на падвядзеньне ітогаў удзелу работніц і батрачак у перавыбарах сельсаветаў і завострыць увагу на большы ўдзел у перавыбарах у каапэрацыю і асабліва на актыўны ўдзел работніц у рабоце вытворчых нарад і ў правядзеньні пасеўкампаніі.

Для ажыцьцяўленьня лёзунгу—уцягнуць саўгаскіх работніц і батрачак у сацыялістычнае будаўніцтва, ЦП саюзу Сельгаслесрабочых практычна намячае наступныя мерапрыемствы:

**Жанчын на кіруючую саюзную і гаспадарчую працу, у рабфакі і на прафкурсы.**

1) Вылучыць 30 жанчын работніц і батрачак на кіруючую саюзную работу раённага і акруговага маштабу.

2) Паслаць на гадавыя прафэсыянальныя жанкурсы ў Маскву 5 жанчын, з якіх дзьве батрачкі і тры сельгалесработніцы.

3) Паслаць на 4-ы Усебеларускія прафкурсы па падрыхтоўцы старшынь рабачкомаў у саўгасах 12 жанчын.

4) Паслаць 40 чалавек жанчын на рабфак, якіх прапусьціць праз падрыхтоўчыя курсы да рабфаку.

5) Паслаць на вышэйшыя курсы па прафруху ў 1929 г. адну жанчыну-батрачку.

6) Вылучыць 5 жанчын на кіруючую працу ў саўгасы кіраўнікамі гэтакіх.

7) Вылучыць 5 жанчын на пасаду старшых рабочых ў саўгасах.

8) Вылучыць у лясьніцтвы на кіруючую працу на пасаду лясьнічых 5 жанчын.

9) Вылучыць 2 жанчыны старшымі прарабамі земляўпарадкаваньня. Акрамя таго на пасаду начальнікаў лесаўпарадкаваўчых партый 3 жанчыны і ў таксатары 5 жанчын.

**200 работніц і батрачак у дамы адпачынку, 30—на курорты. Пры саюзным доме—арганізаваць дзіцячы пакой на 30—40 чалавек.**

10) Пры разьмяркаваньні месц у дом адпачынку паслаць жанчын-работніц і батрачак 200 чал. Пры саюзным доме ў Воўчкавічах арганізаваць дзіцячы пакой на 30—40 чал., дзе-б маглі адпачываць маткі-работніцы сумесна з сваімі дзяцьмі.

11) Пры разьмяркаваньні месц на курорты, выдзеліць 30 месц для хворых работніц і батрачак.

12) У саўгасах трэба запоўніць неабходны процант броні падросткаў дзяўчатамі. Гэта браніраваньне прывурочыць да міжнароднага жаночага дню.

13) Вылучыць адну жанчыну ў Калегію Наркамзему.

**2000 работніц і батрачак у партыю і камсамол.**

14)Садзейнічаць КП(б)Б у рабоце па ўцягненьню батрацтва ў шэрагі партыі праз клясавае выхаваньне батрацкага актыву, паставіўшы перад саюзнымі арганізацыямі мэту падрыхтаваць да ўступленьня ў партыю і камсамол ня менш як 2000 жанчын і дзяўчат.

**15 яcьляў і 50 дзіцячых пляцовак—арганізаваць на час палявых работ.**

15) У нашых умовах дзіцячыя ясьлі і пляцоўкі асабліва неабходны на час палявых работ. Арганізаваць 15 ясьляў і 50 дзіцячых пляцовак, на што ЦП саюзу адпушчае 7000 рублёў.

Усім акраддзяленьням, райкомам і рабачкомам прапануюцца ўсе гэтыя мерапрыемствы ўзгадніць з акруговымі і раённымі жанаддзеламі. Абгаварыць на сваіх пасяджэньнях, урачыстых сходах да 8-га сакавіка. Канкрэтна намеціць месца і тэрмін правядзеньня мерапрыемстваў, намеціць кандыдатуры для вылучэньня і там, дзе гэта будзе магчыма, прывурочыць ажыцьцяўленьне намечаных мерапрыемстваў і вылучэньняў да дню 8-га сакавіка.

**5. Аб культмасавай рабоце сярод спэцыялістых.**

Па дакладу тав. Бушко Прэзыдыум ЦП саюзу 20/II—г. г. адзначыў, што культасьветная-масавая і палітыка-выхаваўчая работа сярод спэцыялістых, дзякуючы адчыненаму ў Менску Цэнтральнаму Дому Спэцыялістых (ЦДС) і арганізацыі навуковых сэктараў (агранамічнага, землеўпарадкаваўчага і лясного), пачала разгортвацца.

Арганізаваныя пры ЦДС гурткі: палітпрафпрацы, па вывучэньню замежных моў, літэратурны, фатаграфічны, радыё, паляўнічы, па вывучэньню глебы і глебавага акрыцьця лясоў БССР і цэлы шэраг камісій у сэктарах згуртавалі навакол сябе большую частку спэцыялістых г. Менску і ўцягнулі іх у культпрацу, якая праводзіцца галоўным чынам у напрамку падвышэньня сваёй палітычнай і вытворча-тэхнічнай кваліфікацыі. Акрамя таго арганізаваны тройкі спэцыялістых для абслугоўваньня дакладамі сходаў рабочых і чырвонаармейцаў па пытаньнях аб ураджайнасьці і плянах разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

У Менску пры ЦДС маецца бібліятэка, якая штодзённа прапушчае 60—70 чалавек чытачоў. У акругах таксама маюцца бібліатэкі, галоўным чынам, спэцыяльнай літэратуры.

Поруч з гэтым Прэзыдыум адзначае, што яшчэ шмат спэцыялістых, якія ня ўцягнуты ў культпрацу і наогул мала цікавяцца гэтай справай.

Асабліва слаба праводзіцца культпраца сярод спэцыялістых у акругах і раёнах.

На далейшы час Прэзыдыум прапануе:

1) Згуртаваць палітыка-выхаваўчую і культурна-масавую работу, галоўным чынам, навакол практычных мерапрыемстваў рэканструкцыі сельскай і лясной гаспадаркі, падняцьця ўраджайнасьці, арганізацыі калектыўных форм сельскай гаспадаркі, буйных саўгасаў і палепшаньня форм лясной гаспадаркі.

2) ЦДС павінен стаць асяродкам усёй культпрацы ня толькі спэцыялістых гораду Менску, але і шырокіх мас спэцыялістых, працуючых у акругах і раёнах, для чаго неабходна наладзіць сталую сувязь ЦДС з вясковымі спэцыялістамі, шляхам пастаноўкі іх дакладаў у ЦДС, выданьня бюлеценю аб працы ЦДС, арганізацыі курсаў, экскурсій, бібліятэк-перасовак і інш.

3) Практычнымі мерапрыемствамі па разгортваньню масавай культпрацы спэцыялістых павінны зьяўляцца:

*У акругах* а) Арганізацыя гурткоў, камісій, пастаноўка дакладаў, лекцый і дыспутаў, садзейнічаньне павялічэньню палітычных і агульна-тэхнічных ведаў спэцыялістых.

б) Прымацоўваньне спэцыялістых да культустаноў для абслугоўваньня дакладамі і консультацыямі па сельскай і лясной гаспадарцы сходаў рабочых прадпрыемстваў, чырвонаармейцаў, вайсковых устаноў, селян у дамох селяніна і вучняў у школах.

*У раёнах:* шырока практыкаваць на сходах спэцыялістых пастаноўку дакладаў навукова-вытворчага характару.

На сходах рабочых саўгасаў, батрацтва і селянства—каротка-тэрміновыя

масавыя курсы аб практычных сельска-гаспадарчых мерапрыемствах на тэмы: павялічэньня ўраджайнасьці, арганізацыі палепшаных форм землякарыстаньня, мэліярацыйных і тарпяных таварыств і інш.

На сходах лясной варты і сходах селян—даклады і гутаркі па лясной гаспадарцы, асабліва па дагляду за лесам.

4) Наладзіць вучот культмасавай працы спэцыялістых.

5) Шырока практыкаваць курсы перападрыхтоўкі і экскурсіі спэцыялістых, як за сродкі гаспадарчых устаноў, так і за сродкі, вызначаныя па каштарысу саюзу.

6) Рэкамэндаваць усім спэцыялістым набыць сабе радыё, якое зьяўляецца адным з лепшых сродкаў прасоўваньня ведаў у глухія куткі.

7) Вызначаныя па каштарысу на ўтрыманьне ЦДС 6.900 рублёў саюзных і сэкцыйных сродкаў скарыстаць на неадкладныя патрэбы ЦДС. Адначасова з гэтым зьвярнуцца да гаспадарчых устаноў НКЗ і ВСНГ аб водпуску адпаведных сродкаў на працу ЦДС, якая вядзецца ў напрамку тэхнічнай і палітычнай падрыхтоўкі спэцыялістых.

8) Прыняць меры да папаўненьня бібліатэк, як агульна-палітычнай, таксама і спэцыяльнай літэратурай.

9) Паставіць пытаньне перад гаспадарчымі ўстановамі НКЗ і МенАКРЗА аб перадачы маючыхся бібліатэк у ўстановы Цэнтральнага Дому Спэцыялістых, дзе яні будзе больш поўна скарыстоўвацца спэцыялістымі.

10) Стварыць пры арганізаваным тыднёвым Палітычным Унівэрсытэце Праўленьне гэткага, камісіі ў складзе т. т. Вайтэнкава, Бушко і Сідаровіча, распрацаваць праграму Ўнівэрсытэту і ўзгадніць яе з належнымі ўстановамі.

**Усе спэцыялістыя—павінны падпісацца на год на газэту „Белбатрак“.**

11) Прыступіць да выданьня спэцыяльнай старонкі ў газэце „Беларускі Батрак“, дзе асьвятляць працу і быт спэцыялістых. Усей сыстэме саюзных органаў дабіцца, каб усе спэцыялістыя падпісаліся на год на газэту „Бел. Батрак“.

## 6. Аб рабоце кіно-перасовак, радыё-установак і саюзнага вандроўнага тэатру на 1929 год.

Для абгаварэньня работы вандроўнага тэатру, кіно-перасовак і радыё-установак за 1928 год шырокімі масамі членаў саюзу, ЦП саюзу быў камандыраваны інструктар т. Пяско ў Койданаўскі раён для абгаварэньня гэтага пытаньня ў ва ўсіх рабачкомах і сельрабачкомах раёну. На пасяджэньні сваім ад 20-га лютага прэзыдыум ЦП саюзу, заслухаўшы вынікі гэтага абгаварэньня, адзначыў наступныя дасягненьні:

а) *Па вандроўнаму тэатру*—калектывам тэатру абслужаны 4 акругі (Менская, Бабруйская, Гомельская і Аршанская), у якіх утварана 304 пастаноўкі, спэктакляў і канцэртаў, дзе прысутнічала 40.282 чал. (рабочых саўгасаў 15.283, батракоў—2.637, рабочых лясьніцтваў торпараспрацовак 3.383, членаў іншых саюзаў—6.042, селян—10.409 і іншых—2.328);

б) *Па працы кіно-перасовак*—плянавае абслугоўваньне кіно-перасоўкамі нізовай прафсаюзнай сеткі, распаўсюджваньне перасоўкамі сярод членаў саюзу і селянства літэратуры і газэт, здавальняючае выкананьне кіно-перасоўкамі вытворчага пляну. 16 кіно-перасоўкамі па БССР дадзена 3.094 кіносэансаў, дзе прысутнічала 340.601 чалавек (рабочых саўгасаў 126.117, рабочых лясьніцтваў і торпараспрацовак 39.128, батракоў 8.177 чал., членаў іншых саюзаў 7.318, селян—9.168 і іншых 8.177);

в) *Па радыё-устаноўках*—адзначыць асабліва шпаркі тэмп разьвіцьця радыёфікацыі, як адзін з сродкаў масавага абслугоўваньня членаў саюзу (на 1/I—28 г. радыё-установак было 18, а зараз іх маецца 238).

Адначасова адзначыць наступныя недахопы:

а) *Па вандроўнаму тэатру:*

1) Недастатковае палітычнае кіраўніцтва ў штодзённай працы калектыву тэатру.

2) Зусім слабае абслугоўваньне калектывам батракоў, рабочых леса і торпараспрацовак.

3) Недастаткавая дапамога нізавых праforганаў вандроўнаму тэатру, як у сэнсе прадстаўленьня кватэр, сродкаў

перасоўваньня, так і наогул дапамогі ў падрыхтоўцы да пастановак спэктакляў, дзякуючы чаму былі частыя выпадкі зрыву плянавага абслугоўваньня членаў саюзу.

4) Значная колькасьць расходваньня саюзных сродкаў на ўтрыманьне тэатру.

б) *Па працы кіно-перасовак*:

1) Недастатковае абслугоўваньне батракоў, рабочых леса і торпараспрацовак.

2) Несваечасовае забесьпячэньне кіно-перасовак кіно-лентамі з боку Белдзяржкіно, дзякуючы чаму бываюць частыя перабоі ў плянавасьці працы кіно-перасовак.

3) Не заўсёды кіно-перасоўкі забясьпечваюцца адпаведнымі для сельгаслесрабочых кіно-лентамі.

4) Значнае расходваньне саюзных сродкаў на ўтрыманьне кіно-перасовак.

5) Ня зусім добрыя адносіны часткі кіно-мэханікаў да сумленнага выкананьня сваіх абавязкаў.

в) *Па радыё-устаноўках:*

1) Адсутнасьць радыё-установак у большасьці сельрабачкомаў і лясьніцтваў.

2) Нясыстэматычная праверка працы маючыхся радыё-установак, дзякуючы чаму радыё-устаноўкі другі раз не працуюць па некалькі тыдняў.

Для ажыцьцяўленьня ў далейшай працы, лічыць неабходным:

а) *Па вандроўнаму тэатру*:

1) Забясьпечыць сталае палітычнае кіраўніцтва працай калектыву.

2) Тэатру ў далейшай працы ўзяць рашучы напрамак па абслугоўваньню ў першую чаргу батракоў, рабочых на леса і торпараспрацоўках, не паслабляючы абслугоўваньня саўгаскіх рабочых. Прымаючы пад увагу вельмі цяжкія ўмовы абслугоўваньня тэатрам батракоў (адсутнасьць у сельрабачкомах сродкаў перасоўваньня, памяшканьняў для пастановак, раськіданасьць батрацтва і г.д.), дагаварыцца з Белсельтрэстам, каб апошнім было дано распараджэньне саўгасам аб прадстаўленьні вандроўнаму тэатру сродкаў перасоўваньня да бліжэйшага ад саўгасу сельрабачкому.

3) Для больш плянавага абслугоўваньня нізавых праорганаў тэатрам, паведамляць райкомы за некалькі тыдняў аб часе і на які тэрмін будзе камандыраваны тэатр.

4) Адзначыць, што маючыйся рэпэртуар тэеатру ня зусім адпавядае запатрабаваньням прафсаюзнай масы, пагэтаму лічыць неабходным у хуткім часе абнавіць рэпэртуар новымі творамі, асабліва з бытавога жыцьця сельгаслесрабочых, а таксама папоўніць рэчамі малога жанру тыпу жывой газэты „Синяя Блуза“.

5) Прымаючы пад увагу малую колькасьць у калектыве тэатру актораў-батракоў і саўгаскіх рабочых, лічыць неабходным у далейшай працы тэатру ўзяць напрамак на паступовае папаўненьне новых актораў.

6) Культаддзелу ЦП вывучыць мерапрыемствы па інструктаваньні кіраўнікоў драмгурткоў.

7) Адзначаючы значныя расходы на ўтрыманьне тэатру саюзных сродкаў, у далейшай працы тэатру ўзяць такі напрамак, каб паступова ліквідаваць саюзную датацыю і перавесьці ўтрыманьне тэатру на самааплату, для чаго лічыць магчымым павысіць цэны на білеты да 75 кап.

8) Даць катэгорычнае распараджэньне ўсім нізавым праорганам аб неабходнасьці ўсебаковай дапамогі калектыву тэатру ў яго працы, як у сэнсе забесьпячэньня сродкамі перасоўваньня, кватэрамі, так і ў сэнсе дапамогі ў час саміх пастановак, а таксама даць паказаньні аб дачы правідловых характэрыстык працы вандроўнага тэатру і практычнай ім дапамозе мастацкім гуртком.

9) Выслаць усім нізавым прафаргагнізацыям інструкцыю аб задачах і абавязках тэатру.

б) *Па працы кіно-перасовак:*

1) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на абслугоўваньне кіно-перасоўкамі батракоў, рабочых леса і торпараспрацовак, не паслабляючы абслугоўваньня саўгаскіх рабочых.

2) Зьвярнуць больш увагі на лепшы падбор кіно-фільм, асабліва з бытавога жыцьця сельгаслесрабочых і сваечасовае забесьпячэньне кіно-перасовак апошнімі. Паставіць пытаньне перад органамі Наркамасьветы і Белдзяржкіно аб забесьпячэньні кіно-перасовак саюзу сельгаслесрабочых фільмамі з жыцьця сельгаслесрабочых (вытворчасьць саўгасаў, дасяг-

неньні ў будаўніцтве саўгасаў, калгасаў і арцеляў, індустрыялізацыі і г. д.).

3) Давесьці колькасьць кіно-перасовак да двух у кожнай акрузе, а таксама арганізаваць тры маторна-рачныя культперасоўкі для абслугоўваньня рабочых на сплавах, для чаго забясьпечыць неабходныя сродкі па каштарысу.

в) *Па радыё-установках:*

1) Колькасьць радыё-гучна-гамонячых установак давесьці ў сярэднім ня менш, як да 50 на кожную акругу, устанаўліваючы радыё-установкі пераважна ў чырвоных кутках пры сельрабачкомах. У кожным лясьніцтве паставіць ня менш, як адзін двухлямпавы прыёмнік.

2) Арганізаваць радыё-слухаваньне радыё-газэты батракамі праз радыё-органаў палітасьветы, для чаго прасіць палітасьветы даць належныя паказаньні загадчыкам хат-чыталень у вёсках.

3) Даць указаньні рабочкамам саўгасаў, каб апошнія ў плян сваёй працы ўключылі радыё-абслугоўваньне батрацтва бліжэйшых да саўгасаў вёсак, для чаго рабачкомам дагаварыцца с сельрабачкомамі, якіх вёсак батракі і якога дню будуць абслугоўвацца.

4) Адзначаючы, што большасьць маючыхся радыё-установак часта псуецца, дзякуючы таму, што няма яшчэ таварышоў, якія знаёмы з радыё-установкамі, склікаць каротка-тэрміновыя радыё-курсы.

**7. Аб правядзеньні вытворчых канфэрэнцый саўгасаў.**

Прэзыдыум ЦП саюзу пастанавіў, замест Усебеларускай канфэрэнцыі правесьці на працягу сакавіка акруговыя канфэрэнцыі вытворчых нарад саўгасаў з удзелам кіраўнікоў саўгасаў, старшых рабочых, старшынь рабачкомаў, старшынь вытворчых нарад і сэкратароў ячэяк КП(б)Б і ЛКСМ і старшынь РК саюзу.

Тэрмін канфэрэнцыі і іх склад намеціць АТЭ і Белсельтрэсту і ўзгадніць з акруговымі арганізацыямі.

Парадак дню канфэрэнцый зацьвердзіць наступны:

а) Становічша і задачы разьвіцьця вытворчасьці, ураджайнасьці саўгасаў і агравытворчай дапамогі бедняцка-серадняцкім гаспадаркам (даклады з месц і даклад дырэкцыі трэсту).

б) Канкрэтныя задачы рабочых камітэтаў і вытворчых нарад (дакладчыкі акраддзяленьняў саюзу).

в) Мэтодыка і схэма складаньня арганізацыйных плянаў саўгасаў (дакладчыкі ад Сельтрэсту).

Менскую акруговую вытворчую канфэрэнцыю склікаць 2/III г. г. Пытаньне аб колькасьці дэлегатаў і нормах прадстаўніцтва ўзгадніць АТЭ і Сельтрэсту.

**8. Асноўныя прапановы да калдагавору на саўгасы.**

Падагуліўшы вынікі абгаварэньня праэкту калдагавораў на рабочых і служачых саўгасах Белсельтрэсту ў Капыльскай арганізацыі (праэкт абгаворана на 14 сходах, у 10 саўгасах, 2 лясьніцтвах і 2 сельрабачкомах) і дасланыя вынікі абгаварэньня з месц, прэзыдыум ЦП саюзу пастанаўляе:

1) Праэкт калдагавору, распрацаванага АТЭ, прыняць за аснову.

2) У сувязі з правядзеньнем новай тарыфнай рэформы і ўстанаўленьня 9-ці разраднай сеткі, лічыць неабходным устанавіць 17 рублёў для першага разраду.

3) У новую тарыфную сетку ўнесьці дадаткова 4-ы разрад для палявых рабочых на тэхнічных прадпрыемствах— саладоўшчыкам, дражжавікам, квасільшчыкам, цыркуляршчыкам і г. д.

4) Для броні-падросткаў устанавіць 14 руб. для першага разраду 6-ці разраднай тарыфнай сеткі, у саадносіне 1:6.

5) Для служачых і спэцыялістых устанавіць пасадныя аклады, захаваўшы існуючыя ў 1928 г., з некаторым акругленьнем.

6) Даручыць АТЭ ЦП саюзу не пазьней 1-га сакавіка закончыць перагаворы з Белсельтрэстам і аформіць калдагавор.

## Б. Дырэктывы.

### I. Аб узмацненьні каштарыснай дысцыпліны.

У сувязі з надзвычайнай напруджанасьцю саюзнага бюджэту 1929 г. і неабходнасьцю цалком выканаць намечаныя саюзнымі арганізацыямі плянавыя заданьні на 29 год, ЦП саюзу зьвяртае ўвагу саюзных арганізацый на ўзмацненьне і палепшаньне фінансавай работы:

1) Галоўнае, на што павінна быць зьвернута ўвага—гэта своечасовы і поўны збор членскіх узносаў. Пры зборы членскіх узносаў трэба поўнасьцю ўлічваць фактычны заработак паасобных катэгорый членаў саюзу. Пры зборы чл. узносаў больш поўна ўлічваць фактычны заработак наступных катэгорый членаў саюзу:

1) Спэцыялістыя павінны плаціць узносы ня толькі з асноўнае стаўкі, але і за сумы, атрымоўваемыя за перавыпрацоўку норм нагрузкі;

2) З ляснікоў, апрача асноўнае стаўкі, трэба ўзьнімаць узносы з часткі зарплаты, атрымоўваемае за ўдзел у распрацоўках і за работу па адводу лесасек;

3) У саўгасах неабходна наладзіць поўны вучот зарплаты падзённых і сэзонных рабочых, якія вельмі часта, асабліва падзённыя, зусім не выплачваюць узносаў у саюз;

4) Студэнты за час вытворчае практыкі, а таксама тыя, якія працуюць у якіх-небудзь установах, павінны плаціць 2 проц. ад фактычнай зарплаты, як і ўсе члены саюзу (студэнты стыпэндыянты, калі яны нідзе не працуюць, плоцяць 1 проц.);

5) У адносіне лесарубаў, сплаўшчыкаў, рабочых тарпяных і мэліярацыйных распрацовак і батракоў, галоўная ўвага павінна быць зьвернута на поўны вучот фактычнага заработку, бо зарплата гэтых груп найбольш недаўлічваецца пры зборы членскіх узносаў (пры ўзіманьні ўзносаў з батракоў, харчы ня ўлічваюцца).

Абавязаць рабочыя камітэты, мясцкомы і прафупаўнаважаных, каб членскія ўзносы на працягу аднаго тыдню з дню выдачы зарплаты былі поўнасьцю сабраны і пераведзены вышэйстаячаму саюзнаму органу. Пры чым недаборы не павінны затрымоўваць пераводу сабраных сум.

2) Трэба ў поўнай меры выкарыстоўваць пункт 22 статуту саюзу аб тым, што члены саюзу, якія бяз уважлівых прычын ня плоцяць членскіх узносаў на працягу трох месяцаў, мэханічна выбываюць з саюзу Пры чым членскія кніжкі ад неакуратных плацельшчыкаў павінны безадкладна забірацца і пытаньне аб далейшым прабываньні неакуратнага плацельшчыка ў саюзе ў кожным асобным выпадку на працягу трох дзён вырашаецца на пасяджэньні рабачкомаў і мясцкомаў.

3) Абавязкова вывешваць насьценныя фінсправаздачы і сьпісы неакуратных плацельшчыкаў.

4) У адносінах каштарыснае дысцыпліны і выконваньня фінабавязкаў ніжэйшых арганізацый перад вышэйшымі прапануецца:

а) Не дапушчаць і не дазваляць ні воднага звышкаштарыснага выдатку. Саюзным органам і рэўкамісіям устанавіць сыстэматычны кантроль над выконваньнем каштарысаў як у даходнай, так і ў расходнай частцы. У выпадках бязумоўнае патрэбы, звышкаштарысныя выдаткі могуць быць утвораны толькі з дазволу вышэйстаячага саюзнага органу і са згоды мясцовае рэўкамісіі, але ня выходзячы з рамак каштарысу, альбо за лік бюджэтных астаткаў, якія належаць арганізацыі, якое дае дазвол.

б) Катэгорычна забараняецца санкцыяніраваць звышкаштарысныя выдаткі, зробленыя без папярэдняга дазволу і бяз згоды з мясцовымі рэўкамісіямі. У такіх выпадках звышкаштарысныя выдаткі бяз усялякіх адгаворак павінны і будуць адносіцца за рахунак асобы, дазволіўшае, альбо зрабіўшае такі выдатак.

в) Бюджэтныя астаткі райкомаў разам з пералічэньнямі на ўтрыманьне міжсаюзных органаў і на дапамогу студэнцтву, згодна зацьверджаных каштарысаў, штомесячна ў першую чаргу

не пазьней 15-га бягучага месяца, за прайшоўшы месяц, роўнымі часткамі пераводзяцца вышэйстаячым арганізацыям.

Пры чым ЦП падкрэсьлівае, што несваечасовы збор узносаў у рабачкомах ня вызваляе райком ад выконваньня сваіх абавязкаў перад Акраддзяленьнем і нявыкананьне абавязкаў райкомамі перад Акраддзяленьнямі, ня вызваляе апошніх ад сваечасовага выконваньня фінабавязкаў перад ЦПС.

5) Ні ў якім разе не прапушчаць тэрмінаў, устаноўленых для складаньня і прысылкі вышэйстаячым саюзным органам фінансавых справаздач, а таксама палепшыць тэхнічнае іх складаньне, не дапушчаючы ніякае путаніцы па фондах і артыкулах выдаткаў. У выпадках несваечасовае прысылкі фінсправаздачы, абавязкова прысылаць тлумачэньне аб прычынах затрыманьня.

6) Рэвізійныя камісіі павінны сыстэматычна ўтвараць рэвізіі: у рабачкомах ня менш аднаго разу ў 2 месяцы; у райкомах і акраддзяленьнях ня менш 4-х разоў у год. У выпадку бязьдзейнасьці рэўкамісій вышэйстаячыя органы прымаюць меры ўзьдзейнічаньня, аж да роспуску рэўкамісій і выбару новых.

7) Саюзным органам супольна з рэўкамісіямі пераглядзець асабовыя рахункі падсправаздачных асоб і прыняць меры да поўнага ўзысканьня і пагашэньня сум, атрыманых падсправаздачнымі асобамі і ўстановамі, і не дапушчаць зацяжкі ў пагашэньні падсправаздачных сум. Без справаздачы за раней атрыманы аванс ні ў якім разе ня выдаваць новых авансаў. У выпадку астачы ад авансу пасьля разрахунку, не пакідаць гэтых астач за падсправаздачнымі асобамі, а патрабаваць унясеньня іх у касу, у праціўным выпадку цалкам утрымліваць гэтую астачу з пэнсіі. Узыскаць выдадзеныя ўзаемазваротна сумы і зусім прыпыніць выдачу ўзаемазваротных пазык. У выпадках выдачы ўзаемазваротных сум, утрымліваць гэтакія з асоб, утварыўшых выдачу.

8) У апошні час наглядаецца павялічэньне выпадкаў растрат саюзных сродкаў. Трэба ўсе меры прыняць да папярэджаньня гэтага, кіруючыся раней дадзенымі дырэктывамі аб барацьбе з растратамі, пры чым трэба на справе ажыцьцяўляць дырэктывы аб прыцягненьні да адказнасьці разам з растрачыкамі рэўкамісій за халатнасьць у рабоце.

ЦП прапануе абгаварыць гэты ліст на пасяджэньнях РК і Акраддзяленьняў і намеціць практычныя мерапрыемствы па зьнішчэньню недахопаў у фінансавай рабоце.

Старшыня ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых **Вайтэнкаў.**

Заг. Арг. Аддзелам ЦП Адк. скарбнік **Аскерка.**

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар—**Вайтэнкаў.**
Намесьнікі яго: **Аскерка, Юшкевіч.**